МАЛАДНЯК

Кніжніца маладняка

КУЗЬМА ЧОРНЫ

# ПА ДАРОЗЕ

ВЫДАНЬНЕ ЦБ МАЛАДНЯКА
МЕНСК——1926

Кніжніца „Маладняка“

КУЗЬМА ЧОРНЫ

# ПА ДАРОЗЕ



ВЫДАНЬНЕ ЦБ МАЛАДНЯКА
МЕНСК — 1925

# ПА ДАРОЗЕ

## I

Зямля—як размах чалавечай радасьці—шырокая, бяскрайняя, здольная будзіць вялікія імкненьні пачуцьцяў і думак. Адчуваецца яна цьвёрдасьцю пад нагамі ды вострым пахам сваім ад вільгаці летняе ночы...

Цяжкія хмары нізка валакуцца над ёю і спробуюць сеяць на яе цёплую імглу, а пасьля адпаўзаюць на далёкую граніцу неба і поля і варушацца там дзівоснымі абрысамі ў густой сваёй чарнаце...

Канца-краю зямлі ня відаць,—таксама, як і неба над ёю. Зямля, як чорная прастора, прыціснутая хмарамі і маўклівая ад іх... У цемені палёў прытаіліся ціхія вёскі і слухаюць: з самага вечара дзьмуў вецер і над палямі плылі ціхія песьні травы, а пасьля, як нагнаў вецер хмар, прапаў, і толькі слухаць засталося вёскам шырокую маўклівасьць глыбокае ночы...

На зямлі дарога—як само жыцьцё: відна толькі каля ног, але-ж і заве-зазывае яна ўдаль. Усё едзеш і йдзеш па ёй, і з кожным крокам яна ўсё новая праходзіць пад нагамі, і здаецца, што наперадзе там за нечым няясна-дзі-

восным і далёкім будзе нешта надзвычайнае, а тымчасам—там кусты ды поле.

І ўяўляецца, што гэта хмары ўсё больш пачынаюць зьбірацца там, куды йдзе дарога, што іх ужо там многа, усё там чарней, як усюды, і няма туды ходу. А як дабярэшся туды—зямля там родная шырока-вольная, хмары адпаўзьлі наперад і зноў можна йсьці з радасьцю ў бяскрайніх прасторах.

Вільготная зямля глуха аддае стукам пад калёсамі й капытамі коняй, са стукам мяшаюцца дробна-дрыжачыя званы жалеза ці бляхі вазоў ды яшчэ галасы людзкое гаворкі ды крыкі на коняй, як зыкі кропель вады з дзіравага вядра ціхаю ноччу пры студні...

Едуць фурманкі па цёмнай дарозе; ззаду сьледам навісае вялікая ноч, наперадзе паступова, паступова паўзе яна, як-бы хітра паманьваецца...

Ні зямлі, ні неба ня відаць...

---

На пярэднім возе ехаў Саша Мяльгун—шырокі ў плячах і высокі хлопец. Гэта яго голас мацней за ўсе чуўся, калі ён падганяў свайго каня. З задніх фурманак яго постаць вырысоўвалася шырокаю цёмна-шэраю лапінаю і голас выяўляў многа гордасьці сабой усім тым, што і як ён робіць.

І яшчэ дзяўчына сядзела з ім.

На другой фурманцы ехаў Павал Грыбок—хлапец з танклявым хрыплым голасам. Ён часьцей за Сашу Мяльгуна гукаў на свайго худога коніка, каб той не ставаўся ад сытага пярэдняга каня. У голасе яго адчувалася наіўна-сталая ўпэўненасьць, што вось раблю я так, як і ўсе; разам з усімі я еду хоць зусім яшчэ малады, яшчэ нават з падлеткаў ня вышаў; я так, як і другія—сталы гаспадар.

З свайго возу Павал Грыбок добра бачыў, як Саша Мяльгун часта прытульваў да сябе дзяўчыну і чуў, як яны паціху гаварылі.

А з задняй фурманкі насьмешна далятаў да Паўла грубы й зычны, як брэх здаровага сабакі, голас Сёмкі Цераховіча:

— Павал, паглядзі, як галубкі брукуюць!

Павал нічога не адказаў, бо было яму неяк як-бы нялоўка перад Сёмкам ці-то няглыбокая злосьць, што ён варушыць у ім мінулае. Зьяўляліся ў яго толькі чыстыя, як вада, ды павольныя думкі аб гэтым...

Тады былі нудныя зімовыя дні і ночы. Хаткі, як трухлявыя грыбы, хаваліся ў сыпучым мерзлым сьнягу, дымілі ўгору роўнымі дымамі каміноў ды баязьліва блішчэлі на халодным сонцы маленькімі вакенцамі.

Людзі хадзілі ўшушканымі ў розныя лахманы—абы трохі больш чаго ўзьдзець на сябе ды сагрэцца.

Вечарамі хаты спрабавалі гульнуць ціха просьценькімі дзявочымі песьнямі за пражай,

а хлопцы жартаўліва не давалі ні сьпяваць, ні прасьці.

Насьця была ўся, як вугаль, чорная ды яшчэ маленькая некая, ды яшчэ такая любая, і разам з тым, можа, ад гэтага, такая далёкая, што яму, Паўлу Грыбку, худому, востраносаму з бародаўкамі на няпрыгожым твары, ня было сьмеласьці падыйсьці да яе і гаварыць з ёю так, як гаварылі ўсе іншыя. Толькі раз у цёмных сенях, як ішлі дадому, схваціў ён яе раптам за руку, ды так і дашлі да яе хаты цераз усю вуліцу.

„Можа, гэта яна тады—от, абы пацьвяліцца",—думае цяпер Павал; а тады былі спатканьні на цёмнай ад зімовай ночы вуліцы, заваленай сьнегам. Была яшчэ тады вельмі-ж вялікая нуда, што з гэтага ня можа нічога выйсьці, бо гэта-ж у яго нічога няма, зусім голы двор, ды пустая хата, дый сам ён, як гнілы грыб, часта хварэе. Але былі спатканьні вельмі доўга, і Насьця была такая-ж блізкая, як і далёкая...

Вясною дык пачалі ўсе гаварыць пра гэта, і тады-ж Насьця пачала хадзіць з Сашам Мяльгуном. Паўлу не хацелася тады жыць, а пасьля пачало праходзіць гэта ў яго і ўжо цяпер толькі злосьць на шчасьлівага Сашу Мяльгуна, крыўда на тое, што сам ён ува ўсім мізэрны такі, што нават калі што й было, як у добрых людзей, дык і то цяпер тыя-ж самыя людзі праходу не даюць...

— Но!— гукае Павал на каня, у вадказ на насьмешныя словы Сёмкі Цераховіча з задняга возу; і гэта ў яго выходзіць пабалагольску!

— Ё, ё!...

Ззаду, з Сёмкам Цераховічам едзе стары Тодар Дрозд—хітры й самаўпэўнены, як вужака. І яны пачынаюць удвух гаварыць між сабой.

„Мусіць нарочна гэта яны так моцна, каб чуў я“, думае сярдзіта Павал і слухае:

„Бач, падла, едзе сабе з Сашкам, усёроўна, як з гаспадаром; а гэты Грыбок-трухлявы ззаду аж млее, мусіць, бачучы. Куды яму, смаркачу, яшчэ было зачэпацца з ёю, а яна чорт яе ведае нашто яго за нос цэлую зіму вадзіла. Цяпер ён аж кашляць пачаў з нуды“.

Павал пазнае голас Сёмкі і яму ўяўляецца яго сытая гадкая постаць, шырокі твар, увесь у вугрох, ды здаровыя, валасатыя кулакі. Паўлу хочацца саскочыць з свайго возу, схваціць дзе-небудзь на дарозе камень ды даць ім з размаху ў голаў Сёмку, каб таму аж чэрап трэснуў. А пасьля яшчэ большая нянавісьць шавеліцца ў Паўла да Тодара Дразда, калі той пачынае гаварыць:

— Яго, значыць, бацька многа грашыў на сваім жыцьці, вельмі-ж баб многа мяняў, як у смалакурні служыў, ды яшчэ хварэў чорт ведае чым, дык ад гэтага і Павал вышаў гэ-

такі нядошлы, як гнілы. А яшчэ рызыкуе, будучы гэтакім смаркачом.

— Бач, бач,—радасна раптам перабівае сам сябе Тодар,—дальбог-жа, вунь, ліха яму, прыціснуў, здаецца, да сабе, ды як галубіць... Эй, ты там, Саша, асьцярожна, а ты, Павал, чаму не глядзіш!?

Павал углядаецца наперад і бачыць, як чорная постаць Насьці, няясная ноччу, як голас хворага дзіцяці, зьлілася з постацьцю Сашы, а пасьля, як закрычалі ззаду, яна адсоўваецца ад яго—усё такая-ж далёкая і зноў як-бы любая.

І такая глыбіня крыўды, злосьці й жаданьня паскардзіцца некаму зьяўляецца ў Паўла, што хочацца пакінуць гэтыя цёмныя вазы, гэтых гадкіх людзей, з якімі давялося-ж бо нек разам зьехацца, калі выяжджалі з вёскі ў горад. Хочацца Паўлу пайсьці цёмным полем да таго месца, дзе за некімі чорнымі, дзівоснымі абрысамі нечага начнога зьяўляецца маленькая ясная лапінка,—гэта месяц, мусіць, спробуе выбіцца з-за хмар. Робіцца там трохі сьвятлей, вызначаюцца трохі шырокія далі, завуць яны да сябе сваім размахам і воляй, і там як-бы, няма нікога такога злога, гадкага...

— Павал, Павал, глядзі,—зноў дабягае да Паўла голас Тодара з задняга возу, голас нейкі цьвёрды, сьлізкі, як мокрая гадзюка.

Павал на хаду паволі злазіць з возу; раптам чуе, як на пярэднім возе пачынаюць ра-

гатаць. Голас у Насьці бязьвінна-гульлівы, бяз хітрасьці: проста затым гэта рагоча яна, што сьмешна ёй; а рогат у Сашы страшны, як удар абухам па галаве,—і колькі ў ім самаздавальненьня, жаданьня патаптаць усё сабе пад ногі, быць над усім вышэй, і ўжо ўпэўненасьць, што мацнейшы за ўсіх ён тут.

Павал паволі прывязвае лейцы да аглабіна і чакае задняга возу.

— Ты што, глядзець ня хочаш?!—падае голас Тодар:—прамаргаў ты, брат, дзяўчыну, як яшчэ прамаргаў.

— Нічога ты, Павал браце, ня варт,—дадае цьвёрда Сёмка:—ня варт было табе і радзіцца гэтакаму. Гэта-ж маладый хлопец—а ліха ведае што з яго... Сашка, сюды йдзі!..

Вырасла раптам з цемры каля возу высокая постаць Сашы Мяльгуна.

„Будуць душу разварочваць“, са смуткам думае Павал.

— Ну, я пайду на свой воз падрамлю трохі,—сказаў ён.

— Ча-чаго ты, дурны; што, з людзьм пабыць ня хочаш?!—схапіў яго за плячо Саша і сам сеў на воз да Тодара й Сёмкі ўсьцягнуў Паўла.

Павал зразу адчуў зьвярыную радасьць Сашы Мяльгуна ад таго, што вось ён сядзіць блізка з тым чалавекам, над якім так удалося яму верх узяць, не далажыўшы да гэтага многа стараньняў. Гэта была радасьць зьвера, ра-

дасьць жывёлы, бяз думак, без жаданьняў, тупая й нікчэмная.

І яшчэ, з вялікаю крыўдаю, адчуў Павал, што гэты вось самы Саша Мяльгун зусім нават ня хоча нічога кепскага яму; калі нават трэба будзе, дык паможа яму ад шчырасьці, хоць, можа, пасьля й пасьмяецца; што гэта ня можа ён адчуць таго, што зьдзекуецца разам з гэтымі вось людзьмі над ім; што ў такім ён сам захапленьні ад жыцьця, ад здарэньняў, ад самога сябе і не прыкмячае загэтым таго, што мучыць другога.

І ў гэтым была вялікая крыўда.

— Ну, я пайду,—зноў сказаў Павал.

— Куды ты сьпяшаеш?—схапіў яго за руку Сёмка:—давай закурым.

— Я-ж ня куру.

— Загэтым, мусіць, цябе й бабы ня любяць, што ты ня курыш,—загаварыў Тодар:—бабы, брат, любяць. Ого-го-го! Каб ты курыў, каб быў, як дуб моцны і як агонь гарачы, каб быў упарты, цяжкі на руку.

— У Паўла якраз нічога гэтага няма, —усьміхнуўся Саша.

—Я-ж к гэтаму й гавару,—абазваўся Тодар.

Тады Павал саскочыў з возу і загаварыў ім тром

— Браткі мае! ну, я ведаю, што вы гэткія моцныя, а я—хворы, дык на што-ж вы гэта мне гаворыце?! Што я вінават, што я такі, а вы такія? На што вы мне душу разварочваеце?

Ну, не хачу я нічога гэтага. Ну, Насьця нада мною насьмяялася, дык я ня крыўдую, бо яна здаровая, а я—хворы. Можа, гэта сухоты ў мяне? Я й так дажыву, калі так, свайго веку. Насьці я не хачу... Хіба слова я ёй калі аб гэтым казаў?! Дык вы з ёю, Саша, любіцеся, дык ці-ж я што гавару?! Куды я ёй? Можа, у мяне й пераварочвалася ўсё нутро ад жалю, ад крыўды, але-ж я маўчаў—куды там мне. Я гэта ведаю... Ды нашто вы косьці бацькі майго варушыце? Мне пакутваць за гэта аднаму, калі за гэта яшчэ. Хто яго ведае, ад чаго гэта ў мяне... Ну, і я хачу так, як усе, але што-ж я вінават? Каб я ня хворы, дык ці ў мяне ўсё так было б? Нашто вы ўсё гэта гаворыце, чаму ты, дзядзька Тодар, на сябе не паглядзіш, а майго бацьку памінаеш?

А яны ўсе утрох тады зарагаталі. Рагаталі зычна, шчыра, весела. Рогат іх быў—жаданьне вольнае ад жыцьцёвых пут—шырокі і затаіўшы ў сабе сілу грубой, стыхійнай і нікчэмнай перамогі, дзікае, тупое сілы над усім слабейшым... Была ў рогаце гэтая перамога над слабым Паўлам, над рознымі дробнымі перашкодамі, якіх так многа, і перамагаць, змагацца з якімі, ёсьць і ўся, можа, мэта і ўвесь сэнс жыцьця. Ня было ў рогаце радасьці, была адна сіла—здаровая, як камень, цяжкая, як зямля...

Пачынаўся дзень, мусіць, бо шэраю стала вызначацца зямля. Сталі выяўляцца з цемры

далі, дарога больш відаць стала. Ці то гэта, можа, месяц больш выбіўся з-за хмар—там на даляглядзе нек жоўта пачало рабіцца. Зямля была бясконцным прасторам, які зваў дыхаць вольнаю воляй.

Ці вёскі, ці лясы падняліся белавата-цёмным абрысам далёка і ўсе віднець пачалі.

Няйначай, гэта дзень пачынаўся.

Прыбег раптам вецер і адагнаў хмары за далёкія лясы. Тады сонны месяц глянуў, каб разьвітацца з зямлёю. Абліў ён сьветам сваім, як плачам, дарогу, тры хурманкі й людзей на іх.

Наперадзе трос сытым задам конь Сашы Мяльгуна, ззаду не адставалі два худзенькія конікі Паўла й Сёмкі. На пярэднім возе гойдалася ў бакі постаць дзяўчыны. Была яна маленькая ды тоўсьценькая, галава абкручаная белым тоўстым шалем, была як калясо на цёмнай шэрані начное прасторы... Месяц асьвяціў людзей на заднім возе. Быў вясёлы Саша Мяльгун, ухмыляўся ён шырока, таксама весела ўхмыляўся, але з нейкаю зайздрасьцю Сёмка Цераховіч. Тодар пабліскваў хітрымі вачыма з-пад пасівеўшых броў на пажоўклым твары, ды хмуры Павал маўчаў, затаіўшы на дробным, вострым і худым твары жаданьне дзе-небудзь дзецца ад гэтых людзей.

II

На пярэднім возе Насьця паволі падганяла Сашавага каня, гукала часам на яго слаўным

жаночым голасам. У чорным кароткім каптане яна здавалася тоўсьценькаю, порсткаю, і на твары яе гуляла журботна-вясёлая, задорна-пакорная, дзявочая задумёнасьць, якою жанчына заўсёды цягне да сябе. Яна адчувала, што аб ёй гавораць на задняй фурманцы, і ў яе зьяўлялася хваляваньне, што вось яна застаўляе цэлую ноч гаварыць людзей, іншых быць вясёлымі, іншых сумнымі.

Было толькі ёй трохі спачатку нялоўка перад Паўлам, з якім нечакана прышлося зьехацца, выяжджаючы вечарам з вуліцы вёскі. А пасьля гэта прашло, бо ня ведала яна, што ў Паўла на душы. Прыпаміналася ёй, як яна зімою дражніла Паўла каханьнем, думаючы, што ў Паўла, апрача гульлівай вясёласьці, нічога ад гэтага ня будзе. І цяпер ня ведала, што цяжка Паўлу яе бачыць, таксама як ня ведаў, ня думаў Саша Мяльгун, што цяжка Паўлу ад кпінаў.

Ды яшчэ трохі было нялоўка дзяўчыне ўжо перад усімі, што на Сашавым возе, хоць і ведала яна, што ўсе гавораць аб іх блізасьці, ды яшчэ дагадвалася, што, можа, там, ззаду ведаюць, што яны з Сашам едуць у горад купляць усё к свайму вясельлю. Ведала, што Сёмка з Тодарам едуць мяняць каня, а то вельмі-ж ужо нядужым, бо старым і худым стаў Сёмкаў конь... Ня ведала толькі Насьця, што Павал едзе да доктара.

І былі ў яе настроі гульліва-журботныя, радасныя, як у маладой бясклопатнай дзяўчыны. Ёй было весела ад таго, што дражнілася яна зімою каханьнем з Паўлам, было трохі шкода яго ад таго, што ён вельмі-ж моцна кашляе. Але ўсё было сьветла і добра. Ї ўжо зусім затапляла ўсе яе пачуцьці нявыказаная словамі, адчуваемая ўсёю істотаю вялікая радасьць; што вельмі-ж вось падабаецца Саша; што яны ўдваіх едуць у горад на яго возе купляць усё, што ім абаім патрэбна; што вось можа яна гукнуць яго, здаровага, кплівага над усімі, і ён ціха прыдзе да яе.

Весела было глядзець на чыстае ўжо неба, слухаць гулкія песьні маладога ветру на пахучых засевах грэчкі. Яна азірнулася назад і бачыла, што Павал ужо йдзе, паволі калываючыся, побач свайго возу, і ўявілася ёй, што гэта Павал рад таго, што едзе ў горад уладзіць нейкія свае патрэбныя справы па гаспадарцы. Ёй захацелася засьпяваць што-небудзь лёгкае, цягучае, ціха-радаснае, або ўжо, калі на тое пашло, зусім гульлівае. Вось так, як сьветлымі вечарамі ў залатую восень сьпяваюць гуртам дзе-небудзь каля канцавое хаты:

«Што за месяц, што за ясны».

Або вясёлы і зусім новы ў вёсцы мотыў кудравай песьні:

Гэй вы, коні вараныя,
Грывакі, мае!..

Плаваюць гулкія песьні ў прасторы востра-лёгкага паветра, слухаюць іх нізкія хаты;

месяц глядзіць на вёску, і старыя выходзяць з хат слухаць ды ўспамінаць. А ў вясёлых песьнях весела-радасны смутак і жаданьні нявядама якія.

Эх, вы песьні людзі на зямлі!..

Ні-то драмаць, ні-то моўчкі думаць пачала Насьця...

Тады зьявілася была ў Паўла думка падыйсьці да яе ды пагаварыць з ёю. А як ступіў ён два крокі наперад, асядаць і гінуць пачала думка.

— Няма аб чым у мяне з ёю гаварыць,— зусім моцна сказаў Павал.

— Што так кажаш?!—дакаціўся голас ззаду.

— Нічога, дзень нахапіўся,—адказаў Павал і сьцебануў пугаю каня па худых рэбрах.

„Вельмі-ж на полі ўрадзіла ярына“, падумаў ён, невядома чаму.

А пасьля раптам уцякла гэтая думка і ўявілася, што доктар, да якога ён едзе, павінен быць чалавекам вельмі сур‘езным, але нейкім такім, якому можна і нават трэба сказаць аб усім, нават і аб Насьці, што яна такая далёкая і што за гэтым аж нічога рабіць дома ня хочацца.

— Яно ўсё пройдзе, зьявілася новая думка,—усё забудзецца, а жыцьцё будзе яшчэ доўгім, бо ад грудзей, што баляць, ніхто ня ўмёраў ніколі, здаецца. Многа яшчэ будзе думак новых і навін за жыцьцё, толькі вось ад-

наму, мусіць, прыдзецца, пахаваўшы матку, або перацягнуць на гэтую гаспадарку сястру з мужам з суседняй вёскі... А ўсё-ж яно слаўна так ехаць, а пасьля, вечарам, назад; адчуваць вольнасьць вільготных палёў, слухаць, як у вёсках пры дарозе сьпяваюць пеўні...

І ўжо зьявілася думка, што гэта-ж усё робіцца ў жыцьці нек хто яго ведае як, і нічога ня зробіцца таго, чаго ня зробіцца...

Думка была слаба выяўленаю, няяснаю,— была яна, хутчэй усяго, глыбокае пачуцьцё...

Зусім ужо пачынала віднець, а на палёх разгуляўся радасны вецер...

Раптам у Паўла зьяўляцца пачаў новы настрой, стала прыпамінацца, што трэба рабіць у горадзе.

„А можа зусім да доктара ня йсьці“, Падумаў Павал, „гэта-ж усё так сабе. Яно няважна, мала што, чорт яго бяры... Вось зайду гэта я ў краму, куплю чаго трэба, ды паеду дадому, адзін“.

Сьцебануў Павал тады пугаю каня ды палез на воз.

## III

У тую раніцу ў вёсцы яшчэ прыцемкам устала жанчына. Было многа работы аднэй у хаце.

І ўсё тупала яна па двары, каля печы ды думала аб Паўлу. Яно ні то што гэта было шкода ёй, што Павал нездараўчаны—аб гэ-

тым ня думалася, бо да гэтага ўжо прывыклася і гэта было звычайным. Думала яна, што Павал гэта, мусіць, зьмёрз уночы.

Была жанчына старая й мела яна толькі аднаго сына—Паўла. Апошнія свае гады часта насіла яна ў сабе нейкі востры настрой. Бо гэта яна многа перажыла была за жыцьцё цяжкасьцяй—бяды ды гора, а гэта зрабіла яе чулай вельмі.

І ў тую раніцу, палетнему весела-хмурную, брала яна пад паветкаю дровы ды ўбачыла, што каля самай сьцяны трохі варушыцца ад ветру куст крапівы, і тады прыпомнілася, што яе многа расьце на дарозе за аколіцай, дзе агароды пераходзяць у жытнія прасторы. А гэта было прывычнае, роднае, сярод чаго жылося, пакутвалася, ды адчувалася пасьля і лёгкасьць і веселасьць. І ўжо тады ад гэтага ў жанчыны зьявілася нек да ўсяго шырокае пачуцьцё і падумалася:

„От Павал прыедзе ды касіць пойдзе на балота, а я буду каля дому хадзіць“. І затым, што было ўсё гэта зьвязана з тым дробным, што на кожным кроку абкружвае жыцьцё, затым і зьявіўся раптам у жанчыны востры настрой. Хацелася гаварыць з усімі аб усім і ўжо пачала яна з нецярплівасьцю чакаць Паўла.

„От нешта Павал сумны паехаў, хоцьбы падвесяліўся ён там як-небудзь“,—думала яна.

І хадзіла па дварэ вясёлая.

## IV

А Павал у той дзень зусім вясёлым выехаў з гораду.

Доктар яму нічога не сказаў, толькі даў нейкіх зеленаватых пілюль; купіў яшчэ Павал матцы хустку ды новую касу. А як выяжджаў з гораду, дык адчуваў, што ўсё будзе добра—ці-то гэта пілюлі памогуць, ці то зусім нічога ў яго няма. Вось будуць пагодлівыя дні, добра будзе касіць каля рэчкі; а Насьця—чорт яе бяры. І едучы бачыў, як на краі гораду музыканты зьбіраюцца граць у вялікім разгароджаным садзе.

У капэльмайстра таксама балелі грудзі і ён стрымліваў кашаль. У ваднаго музыканта балеў зуб, і яму цяжка было дзьмуць у флейту, але-ж ён думаў аб тым, што ад яго флейты многае залежыць у музыцы. Усё-ж ня было весела, нават нек сумна капэльмайстру і флейтыстаму.

Таксама ня было весела й яшчэ аднаму музыканту, бо дома былі ў яго некія нелады ў сям'і, і толькі лепш адчуваў ён сябе ў настроях тады, калі выходзіў з дому. Але ўсё-ж заўсёды аб гэтым думалася, затым і ня быў ён гэтыя дні весяла-спакойным.

Так трое гэтых людзей, ад якіх многа залежала ў музыцы, далёка былі ў тую хвіліну ад вясёласьці. Толькі ніхто ня ведаў і ня бачыў гэтага, бо як махнуў капэльмайстра рукамі і гранула бяскрайнім вясельлем музыка,

ува ўсіх, хто слухаў, раптам пачало зьяўляцца вялікае захапленьне жыцьцём, адчуваньне яго вялікасьці й хараства. А ў каго й зьявілася журба, дык была яна радаснаю й жаданаю...

І хто глядзеў на гэта, хто чуў вясёлыя зыкі—думаў, што гэта так ёсьць ці было і ў настроях музыкантаў. А ў музыкантаў вясялець пачаў настрой пры першых зыках.

У Паўла-ж пачала весёлай лёгкасьцю напаўняцца істота паволі. Пасьля нек усё зрабілася для яго слаўным, радасна захапіла імкненьні.

Як ехаў, дык весела ляжала пад ветрам поле і некуды далёка адплылі і Саша Мяльгун, і Насьця, і Сёмка Цераховіч, і Тодар. Сплыло ўсё тое, што было на душы, як ехаў у горад. Хацелася перш, каб чым хутчэй даехаць да дому ды парадаваць словам матку, даючы ёй новую хустку, а пасьля як-бы гэта падняўся ён на некую высокую гару ды расклаў там агонь, асьвяціўшы нешта новае. Прапала быўшае ўночы пачуцьцё таго, што й ён як сталы гаспадар. Ён-то адчуваў сябе сталым і цяпер, але йначай нек, бо згінула думка аб сваім кані ды драбінах, а думалася нек аб усіх людзях, або тым самым кані, але ня так,— што вось гэта яго конь і ніхто ніколі да гэтага каня ніякага дачыненьня мець не павінен, што гэта конь і драбіны, а я гаспадар,—а думалася і адчувалася, што вось конь вязе, а я еду. А вакол зямля, вакол людзі. Ды йдуць

на зямлі дні ды ночы. І ветры сьпяваюць, і сонца сьвеціць. Пасьля дажджоў дарогі горшыя. А Саша Мяльгун, ды Сёмка Цераховіч, ды яшчэ Тодар жывуць сабе, кпяць з усяго, што застаўляе іх жыць, варушацца сабе ды адзін і ў адным корпаюцца, ды злуюць адзін на аднаго часам за гэта. А мне вось добра глядзець на іх ды на ўсю гэтую іх работу.

Паўзла ды паўзла зямля насустрэч. Кружыліся далі, адпаўзалі ўсё ў бакі. Звала дарога наперад, а дзень быў, як гаворка аб чымнебудзь вялікім, родным, блізкім, што напаўняе ўсю істоту лёгкасьцю любых настрояў ды думкі робіць востра - імклівымі...

Паўзла дарога...

Вяла зямля роднаю воляй.

## ВОСЕНЬ і РАДАСЬЦЬ

(*Настроі*)

З яшчэ нядаўных часоў свайго маленства я памятую хмурную восень.

Плакалі вятры ў туманных лагчынах і разносілі па вільготнай зямлі глыбокія зыкі родных лясоў ды вострыя песьні высахшых меж...

І хмары хадзілі,

і сонца сьвяціла,

і пад золатам халоднай ясноты ціха ляжала ральля.

Кружыліся вароны па ветры, з-пад бараны мае клявалі зерня і крычалі—

так неяк крычалі,—

што пачало мне здавацца:

Ці не адчулі гэта яны сваю мяжу жыцьця і сьмерці—

бо йшла зіма.

Усё дзьмуў вецер і—усё грэліся пры агнёх пастушкі.

Плакаў ад ветру сьляпы конь, уставіўшы голаў у высахшы быльнік, і з замілаваньнем вялікім глядзеў на яго брат мой—хлапчына малы, з расьсечаным некалі тварам у бясконцнай рабоце, што з самых маленькіх дзён ужо спаткала яго.—

— Гэта сеялі жыта.

А ляцелі над полем у вырай зімовы балотныя птушкі:

— Пі-пі, пі-пі!

Гнаў вецер і іх і гэтыя іх галасы.

Нёс іх.

І нёс яшчэ гулкія звоны іржавага дроту, што цягнуўся над полем па шэрых, падгніўшых слупох.

— Дзе там пачуць гэты звон пустога жалеза, калі жывых звонаў не перачуць, не праслухаць!?

І далася птушка жоўтымі грудзьмі ў зьвінючы дрот:

— Пі-пі!..

Крыкнула яна з халоднай зямлі да сваіх, кінулася была за імі — але пацякла раптам кроў з-пад крыла.

Ужо прыбег да яе брат мой — хлапчына малы, прылажыў хустку да яе крыла, а яна ўсё крычала:

— Пі-пі, пі-пі!..

І тады з другога загону прышла жанчына.

Твар у яе быў жоўты і вялы ад жыцьця, мерзлі ёй ад асеньняй зямлі босыя ногі, хавала яна рукі ў рукавы халоднай адзежы

і ўсё стаяла,

і ўсё маўчала,

і ўсё глядзела на птушку ды на сына-хлапчыну.

І раптам пацяклі па яе
слаўным,
незабываемым,
бясконца дарагім,
ніколі і нікім не намалёваным,
нявыказаным
твары—пякучыя сьлёзы.
Слёзы маткі —
Сілу ж іх хто выявіць?!
Наша маці гэта была.
І тады мне зрабілася ясна:
Гэта ж плача яна не над птушкай.
Гэта-ж бунт вялікі паднялі ў ёй пачуцьці.
Бунт:
Што шэрыя дні вельмі-ж халодныя,
— Што вельмі-ж босаму холадна ў ногі,
— Што вельмі-ж грудзі баляць ад нямачым затуліць іх ад ветру,
— Што падаюць на зямлю пакутніцы-птушкі
— Што даводзіцца мучыцца ад астраты пачуцьцяў...

І чаму не пасьмеў тады я стаць перад ёй на калені?

Але-ж хіба ты прыметны, з усім сваім, перад вялікасьцю?..

Якраз тры дні было да зімы.

Тры дні змагалася сонца з хмарамі, тры дні сьпявалі вятры глыбокія песьні і тры дні ў хаце на асьвечаным асеньнім сонцам акне крычала пакутніца-птушка:

— Пі-пі, пі-пі!

І ўсё плакала жанчына.

Плакала, часам, і не сьлязьмі, ды пачуцьцямі.

Але-ж хіба прыметны ты, з усім сваім, перад вялікасьцю?

* * *

І сягоньня восень.

Як з мрокам дзён прыходжу дадому, чую, як за акном падаюць жоўтыя лісты.

Яны шумяць пад нагамі.

І як-бы на высокую гару да мяне даходзіць —

І глыбокі звон, і пусты звон, і родныя гаворкі людзей,

І гулкія песьні асеньняга ветру ў шырокіх палёх, над золатам радасных хат...

Пахне трава, малая і пажоўклая, на межах ды выганах.

Ходзяць коні па голых паплавох; і зноў чую я, як радасна грыміць жалеза.

І раптам уськінецца бунт непакойных пачуцьцяў:

— Гэта-ж тры аршыны пяску ляжыць на грудзёх тэй вялікай жанчыны, што некалі, увосень, плакала аб усім —

над раненай птушкай

на халоднай ральлі...

Кіпіць бунт і адыходзіць.

І зноў пачуцьці растуць.

І думаю я:

Можа яшчэ дзе і сястра цяпер плача, або брат чаго спахмурнеў...

І яшчэ я думаю,

І адчуваю:

Хутчэй-жа выплаквайце свае апошнія сьлёзы, каб нават і сьлед іх ня схмурыў новай радасьці—

Што расьце.

Што ўзьнялася,

Што ўжо красавацць пачынае...

І раптам устае перад вачыма маімі вобраз тэй вялікай жанчыны:

Яна сьмяецца ціха і ясна,

сьмяецца дзецям сваім, што ахвацілі шырынёю зямлю.

І бачу я ясноту зямлі:

Новае сонца..

* * *

Вечар ложыцца на зямлю за акном.

У звонкай цішы я слухаю мэлёдыю:

— Падаюць за акном лісты, сьпявае над імі вецер вясёлыя песьні, нясе ён звоны гораду ў родную шыр—іржышча, ральлі, паплавоў ды лясоў.

А там пад ім коні трасуць касматымі грывамі, у вырай птушкі ляцяць і водгульлем гулкім лясы аддаюць сьвету вялікія звоны гэтай мэлёдыі,

мэлёдыі радаснай,
мэлёдыі вялікай,
мэлёдыі новай —

і глыбокай ад таго, што паднялася яна на зямлі, некалі аблітай пякучымі сьлязьмі вялікай жанчыны—пакутніцы маткі.

Восень.
Вечар.
І ціш.
Шырыцца мэлёдыя...
На дварэ –
за вакном:
падаюць лісты.

9-X-1925 г.

# ЗАБОЙСТВА

## I

...Бо дыхнула вясна, дык і зямля стала вясёлай... У прагным жаданьні парыліся ўзгоркі, лагчыны купаліся ў сырасьці... І гулкая ні-то цішыня шырокіх размахаў, ні-то песьня веснавое вясёлае журбы плыла над зямлёй... Зямля чакала часу ўзьняць сабраныя сілы сваёй творчай здольнасьці і ў сырых кутках драмала пад сонцам; драмала з подыхам шырокім пасінеўшаму небу...

Ночы былі зычныя, далёка-гулкія і пахлі вадою, бо вады на зямлі было многа...

Як чакала зямля людзей у свае палявыя палосы, таксама й людзі зямлю чакалі,—чакалі яе, падсохшую, адпачыўшую. Бо ўжо паіржавелі за зіму плугі і бароны, і грудзям надакучыла дыхаць паветрам шчыльна заткнутых хат...

І яшчэ чакалі людзі: прычакаўшы вясны аднэй, чакалі другой. Зямля была яшчэ чорная, лясы ня былі сінія: гэта пара ад зямлі агортвала іх, яны-ж агортвалі сабою людзей. Ды яшчэ ці мала людзей блыталася па нізкіх кустох, па мокрых алешнікавых паплавох, у гушчарніках лазовых за рэчкамі. Гэта вясна

дазволіла ім пакінуць вёскі. Прапахлі людзі гэтыя сырасьцю веснавое зямлі, вясёлымі імхамі лясоў. І начамі цягнуліся па родных мясьцінах...

Сяк-так зьбіраліся здаволіць зямлю плугамі, але і ў гэтым зьбіраньні была нязвычайнасьць, як-бы было гэта ўжо няважна перад тым нечым, што недзе рабілася, што было й гаварыла аб сабе на кожным кроку...

З самага вечару яшчэ вёска прабавала трохі гульнуць дзявочымі песьнямі, ды хутка сьціхала, толькі часам гране дзе за гумнамі моцная лаянка раззлованага на ўсё чалавека. Вечары баязьліва туліліся к зямлі, а людзі начамі баяліся. А пасьля ночы дзень прыносіў многа новых гаворак, дзівосна выраслых думак і чутак.

Слова мужычае—як гром. Мала што яно баязьліва часам сказана, але затое шырыня й размах у ім бясконцныя. І стараліся ня мець лепш справы з гэтымі словамі тыя, што мелі тут сілу: прыяжджалі яны ў вёску, калі трэба было, крычалі тут, махалі нагайкамі, вынаходзілі ўсякія прычыны, каб перацягнуць мужыка па сьпіне, цешыліся бляскам сваіх гузікаў ды белага арла на шапках і, нацешыўшыся, выяжджалі. І даганялі іх моцныя мужычыя словы, зычная лаянка, хрыпата крыкаў нянавісьці...

— Гых вы, трасца вашай мацеры!..

А тут яшчэ хвароба некая на жывёлу ўкацілася. З хлява Саўкі Чужахвала пачалося: дзьве каровы, як горы, за платамі, на балоце ляжалі—Саўкі і суседа... Пачало не хапаць граніц людзкой злосьці...

Людзі чакалі... Чакала зямля...

II

Стараста ня выцерабіў з-за каўняра вусоў мякіны й сечкі, не абцёр з твару пылу, з тараплівасьці зашпіліў пад расхлестаным кажушком камізэльку верхн м гузікам на ніжнюю дзірку і перабягаў з-пад акна к акну:

— Мацьвей, вечарам на сход валі!

— Цётка Кацярына, гані там вечарам Паўла на сход, тры каровы сказана даць!..

— Саўка, вечарам сход; ад дому не адлучайся, малоць заўтра паедзеш! Чорт яго бяры з млівам, тры каровы, выразна сказана...

— Няхай ім тры скулы...

— Тры мала; каб хаця тры тысячы ..

— Гэй, ты там, вечарам на гэтае...

— Ведаю. чорт яго пойдзе. Хто гэта дурны пацягнецца...

І ўсюды была халодная сьцяна слоў:

— Няхай ідзе той, каму ўсё гэта трэба!

Аднак, вечарам цёмныя сьцены школы здавілі ў сабе густы гул галасоў.

Слухала поле, падышоўшае загонамі да сьцен школы, людзей сваіх. Шырока расплывалася мужычае слова.

— Гэта-ж, каб на іх пяруны, сваё ўласнае давай, ды яшчэ чакай тры гадзіны ўсякую сволач, пакуль задумае зьявіцца...

— Пакуль, добра кажа, зьявіцца, гляне...

— Няхай яны на сьвет не глядзяць.

Але затарабанілі калёсы па падмёрзлай нанач зямлі. Нізкі і тоўсты ўкаціўся ў школу. Глянуў на народ, падышоў к сталу. Мяккія пальцы палажыў на стол, фуркнуў ад духаты. Важна, злосна, папанску сказаў:

— Дык вы-ж ужо ведаеце, тры каровы павінны на заўтра к паўдню даць з вёскі. Каторы тут стараста?

Стараста крактануў, коса паставіў вочы; выпхнуты з грамады пруткімі рукамі, вышаў наперад і нехаця загаварыў:

— Ці ня можна-б было, паночку, скідку якую зрабіць, гэта-ж і так хвароба нейкая ўкацілася, хоць ты гвалт крычы. Наша дзела мужычае: давай, а дзе ўзяць?

Тоўсты нешта хацеў сказаць, ды загулі галасы:

— Але ці парадзіў нам хто, як гэта лепш прыдбаць гэтую жывёліну, га?..

— Дык вы павінны, паночку, сказаць нам, да каго зьвярнуцца гэта з тым, каб паменшылі!

— Да мяне,—адказаў той,—я самы старшы па гэтым, але нічога ня будзе. Скідкі ня можа быць. Тры каровы да заўтрашняга паўдня!..

— Можаце, паночку, і цяпер узяць. Закажэце адно свайму фурману паехаць ды забраць.

Гэта Саўка Чужахвал вылез наперад.

— Што забраць?

— Каровы. Дзьве каровы, як горы. Зусім яшчэ сьвежыя; я толькі ўчора на балота за плагы выцягнуў. Нават і прымерзьлі крыху, так што мяса за мілую душу...

— Гы-гы,—гранулі ззаду рогатам.

— Добра ка'а, за платамі мёрзлае мяса, еж—хоць расьпяражыся.

— Го-го! Гы-гы!..

— Вось лоўка хваціў!..

— Цябе як зваць?—гукнуў тоўсты і палажыў руку на стол.

Саўка шмыгануў назад у грамаду, толькі аблезлы кажушок яго махнуўся перад сталом.

— Як зваць яго?!

— Так што нават ён ня зусім нашай вёскі, а як-бы зьбяглец з...

— Як зваць яго?

— Саўка Чужахвал.

— Ага, гэта што сыноў двух у лес паслаў, партызаншчыну разводзіць, ды мужычае права свае паказвае!? Я цябе, як міленькага прыбяру!..

Зноў загулі, зноў прыціхлі. І заднія пачалі ўцякаць са сходу.

У вострай цішы сырой веснавой ночы ляпалі лапці па зямлі, кашаль і ахрыпшыя

галасы разыходзіліся па вуліцы. Чутка-дрымотнае поле прымала іх і разносіла па туманных лагчынах.

Саўка Чужахвал заўсёды кашляў, а гэта й зусім закашляўся, уцёкшы са школы. У злосьці і крыўдзе прышоў ён у свой двор. А ў хаце адна дзяўчына, дачка Насьця,—гаспадыня ўжо. Трывога была ўвесь вечар і ноч у Саўкі Чужахвала. Ад кашлю яшчэ горшаю была напружнасьць ўсяго. І думкі былі, як удар абухам па сырому бервяну.

Ґолас у Насьці срэбрам па хаце разышоўся:

— Ты чаго, тата, спаў-бы.

— Ведаюць, што хлопцы ў лесе. Запісаў мяне на сходзе сягоньня тоўсты, каб ён спух...

У плач кінулася Насьця. У сьлёзы гаспадыні, выведаўшай ужо ў маладыя гады хатнююталукатню. Плач яе быў ціхі, з прыслоўямі, кабечы.

— Ты чаго? Што гэта паможа? Яно, пэўна, бяда, ды чорт яго бяры. Што будзе, то будзе. Ня я першы, ня я апошні. А што да цябе, дык табе што? Тваё дзела хатняе...

Ня сьціхла Нясьця, і Саўка на двор пацягнуўся. Ляпнуў дзьвярыма, каб Насьця бачыла, што й ён неспакойны.

Грукалі па суседніх хлявох коні. На прыгуменьні, каля шэрай сьцяны бялела салома... І зноў былі думкі стопудовыя:

— Гэта-ж памерла яна, жонка, без пары. Ад бядноты, ад жыцьцёвага гора захварэла й памерла. А сама, што жыць яшчэ ёй было... Тут жыцьцё кончылася ад убогасьці, ад недастач, ад галодных і халодных дзён, а там ён з сытасьці, тоўсты, ня ведае, што рабіць. І яшчэ мае права запісваць мяне, над маім жыцьцём сілу ў лапах трымае... Вось гэта-ж крыўда ў тым усё, што над тваім жыцьцём, над днямі тваімі сілу мае.

Насьця супакоілася ў поўнач, плюхалася ў мыцельніку, мыючы гаршкі.

— Я яго забіў-бы, каб дзе сустрэў ды зручна было,—сказаў Саўка Насьці.

— А божа-ж мой,—зноў заплакала Насьця.

І ноч прашла ў неспакойным сьне... „Можа яно й забудзецца пасьля, але вострымі бываюць першыя хвіліны“, гэта думала Насьця скрозь дрымоту, як думаюць і адчуваюць перад важным здарэньнем або пры вялікай радасьці.

III

У Саўкі Чужахвала конь—проста плёвае дзела: лапавухі, востразады, худы, як дошка, пад касматай скурай рэбры тырцаць, як частакол. Дай яму сена—а ў яго пажаваць няма чым, сьцебані яго пугаю—а ён возьме ды ляжа там, дзе стаяў. За зіму надакучыла яму цёрціся шыяю аб цёмныя сьцены хлява, а тут

якраз праз шчыліны лінулася ў хлеў вясна: мусіць гэта сакавік прынёс з паплавоў тонкі пах ветраных прастораў, вольнасьці рачных берагоў. Бо ўжо зеляніла з зямлі вяршкамі траваі, каляіны на дарогах абветралі. Лапавухі ў хляве раздуваў ноздры ў дзікай нецярплівасьці, цёрся мордай аб дзьверы, глядзець не хацеў на апараную сечку. А раз пад вечар, як Саўка забыўся зачыніць у хляве дзьверы, драпануў лапавухі ў поле: адно блiснуў міма вакон...

Па полі гуляў лапавухі. Трос аблезлай грывай, падкідаў вострым задам, цягаўся каля кустоў ды грыз нешта на голых межах. Саўка з пукам аўсу бегаў за ім, засопшыся. Голас у Саўкі быў сярдзіты, хрыплы ад кашлю:

— Каб ты спруцянеў, каб ты, падла лапавухая!..

Не паддаваўся конь; а пасьля прыпёр яго Саўка да самае рэчкі, у куток балота. Па чэрава ўехаў лапавухі нагамі ў нейкае крынічышча—там і схваціў яго Саўка. Узабраўся на яго худую, як ражон, сьпіну і сьцебануў ламінаю пад чэрава.

— Но, цягніся! Няхай цябе ўпадкі, намучыў ты мяне сягоньня!..

Конь выцягнуўся на дарогу, дый стаў раптам. Натапыраў вушы, разьдзьмуў ноздры. І прышлося Саўку ўгледзецца ў сівы змрок адвячорку. І там недзе імчаліся коні. Хутка

падбеглі. Ды сытыя, вараныя. Коні, як печы. А на іх людзі, як шкло, чыстыя; адзін, як сьвіньня, тоўсты, другі тонкі, бо зусім яшчэ малады.

„Гэта-ж той самы, што ўчора ў школе на сходзе быў“, дадумаўся Саўка ды зьвярнуў, спалохаўшыся, свайго лапавухага на бок з дарогі, ды ткнуў лапцямі ў бакі яму, каб хутчэй бег ад ненавідных людзей. Але ня так-жа лёгка павярнуцца лапавухаму, а тым, як Саўку плюнуць, праімчацца міма. Саўка адно агляну́ўся. А той, маладзейшы, у сытай вясёласьці ад лёгкага жыцьця, сьцебануў мімаходам лапавухага па азадку ды гукнуў насьмешліва Саўку:

— Эй, гвардзеец!..

Вялікая нянавісьць парадзіла ў момант ручаіну нястрыманай злосьці. І голас Саўкі страсянуў хрыпам сьветлы змрок:

— Каб на вас агні, каб на вас!..

Ня чулі, мусіць, тыя, бо скакалі далей. Саўка ехаў адзін паволі вузкімі палявымі сьцежкамі. Злосьць зьмяшалася з крыўдаю— цяжкаю, вялікаю, як каравы, мазольны кулак.

І пачуцьці ў Саўкі на ўвесь сьвет крычалі:

„Гэта-ж сытыя, ды яшчэ злая насьмешка на кожным кроку. У мяне ад галоднага жыцьця мерлі ў сям'і, а там—сытасьць празьмерная. Ды што-ж гэта такое, што насьмешка такая, як-бы над чарвяком якім... Ды яш-

чэ-ж запісаны я ў яго, з таго самага сходу... Ды яшчэ-ж сыны мае два па лясох туляюцца. Яшчэ невядома, што за гэта будзе... Трэба што-небудзь рабіць...

—Тата—сказала Насьця плачучы:—гэта-ж прыходзілі ды казалі, каб заўтра зьявіўся ў двор, дапытвацца пра хлопцаў будуць.

## IV

— Якім дома ці не?—сказаў Саўка Чужахвал, адчыняючы дзьверы.

— Яўхім у гумне,—адказаў скрыпуча бабскі голас з цемнаты хаты.

У гумне пахла адсырэлаю аўсянаю саломаю ды жытнім пылам. Яўхім шамятаў кулямі на таку. У гумне ніхто не мяшаў гаварыць і абдумваць вялікую справу.

—А тымчасам, братка-ж ты мой! На допыт заўтра возьмуць. Прападаць, значыцца, прыдзецца... Падвеў чорт яшчэ мяне на сходзе тады пра мёрзлае мяса за плотам і словы ўвярнуць...

Шапталіся доўга. То ў роспачы то ў крыўднай злосьці павышалі галасы. Панура перасыпалі словы моцнаю лаянкаю ды як-бы баязьліва часам,а часам праз меру моцна і сьмела. Прапіраўся ў душу смутак настойны, узрастаючы. Ішла барацьба ў чалавечых істотах. Змагаўся розум з пачуцьцём. То адвага вялікая, нястрыманая зьяўлялася, то пахілая слабасьць. Ды толькі думкі бралі істо-

ты пад сваю ўладу. Думкі ўнасілі ў веду, што падышоў час, калі адарвуць ад родных хат, могуць пагнаць чорт ведае куды, каманда-ваць жыцьцём, як жыцьцём чарвяка. Ды яшчэ крыўда расла й шырылася.

І голас у Саўкі стаў раптам рашучым:

— Будуць удвух ехаць яны назад хутка; давай, заляжам у кустох ды забіць папрабуем. Усё роўна на тое пашло. Эх ты!..

— Хоць раз за ўвесь век насьмешак... Яно верна... А што думаеш...

У вільгаці старога, цёмнага гумна вырашалася справа жыцьця. Бяздоньне сіл і жаданьняў бушавала ў людзях. Прачнулася й загаварыла бязьмерная нянавісьць пакрыўджаных людзей. Крычала яна ў пачуцьцях і думках, ды толькі не магла складна выліцца ў словах. Ня прывыклі людзі за жыцьцё гаварыць многа. Толькі песьня выяўляе часам пачуцьцё... Больш усё кідалі адрывіста няскладнымі словамі...

— Што-б тут узяць, чорт яго ведае?

— Ды што возьмем, тое й добра будзе. Абы вагу мела...

— Ну дык што-ж!..

— Хадзем хіба...

Ні Саўка Чужахвал за пяцьдзесят два гады жыцьця, ні Яўхім Вілач за сорак восем год жыцьця жабы без патрэбы забіць шкадавалі, а гэта-ж уночы на чалавека йсьці выдаліся.

Над зямлёю драмала вясна ў сьветлым змроку, ад вясны зямля дыхала сьвежаю параю ды піла шырыню маладой лёгкасьці. Ноч маўчала ды была зычная далёкай пустатой...

У хаце плакала Насьця, выпраўляючы Саўку, бацьку з хаты; галасіла блізка ў хаце другая жанчына, выпраўляючы Яўхіма,—усё роўна пабяруць ды пагоняць... Так з плачам прашлі жанчыны з імі двума за гумны, цераз агароды. Правялі іх далёка ды з плачам і смуткам, з жаночым горам пашлі назад мокрымі паплавамі... Змрочна было ў паплавох, ціха ў палёх, цёмна ў жаночай душы. Ды яшчэ ў жанчын было няведаньне, што мужыкі сёньня йдуць забіваць чалавека. А ў тых ужо было толькі адно нястрыманае жаданьне біць

## V

— Як яшчэ невядома прыдзецца. Можа нічога з гэтага ня будзе...

— Валі на ўсё, усё роўна дадому варочацца няма як. Па лясох пажыць прыдзецца...

— Знай, што адарваўся там ззаду...

— Што будзе, то будзе, харкні ды плюнь.

— Але, як табе плюнуць.

— Нямала плявалі. Годзі.

— Бярэ страх? Усё-ж такі!

— Не гавары аб ім, бо возьме. Няхай яго агонь спаліць. Няпрывычнае дзела...

— А думаеш ты пра яго, на каго з доўбняю йдзеш?

— Ужо не. Але ўсё роўна. Кончана... Пачакай, думаю. Само думаецца. Гэта-ж я галодны быў заўсёды ды бяз сну галава, як сто пудоў; а ён... Сволач тоўстая... Ды ты жыцьцё ўсё прыпомні.

— Пачакай, а варочацца ня думаеш зараз-жа?

— Заўтра ўсё роўна забяруць... Ды што ты з мяне вымучваеш? Не мякчэйшы за цябе. Хочаш—сьвісну...

Але ня сьвіснуў, а закашляўся Саўка Чужахвал...

Боты плюхалі па мокрых паплавох...

## VI

...Над зямлёю драмала поўнач, за куп'ямі ціха гаманіла рэчка, а дарогі зусім спалі ў мокрых палёх. У кустох лазіў густы змрок, углядаўся ў поле, абзываўся сьмехам птушкі ды пасылаў доўгія цені свае да самай дарогі. А пры дарозе дбалі двое людзей. Зусім зьліліся аблезлыя кажушкі з зямлёю, зусім, з няпрывічкі да вострай, ніколі нябывалай хвіліны, няроўнымі былі думкі—кідаліся ў бакі, ападалі да бяздум'я, ускідаліся й ахоплівалі сабою ўсё жыцьцё й зямлю... Як у час, які гранічыць між жыцьцём і сьмерцю... А то хітра завівалася думка, што ўсё так сыйдзе жартам, што жарт гэта, бо як гэта можа быць, каб вось нічога ня было такога ў жыцьці, а то раптоўна зробіцца—ўласнымі

рукамі заб‘еш другога... А то ўскіпіць руча-інаю нянавісьць, страшная злосьць, зашчэміць губу між зубамі, сьцісьне моцна пальцы рук...

Даўбешка, што калоў Саўка Чужахвал дома дровы, была пашчапаная, пабітая, ды яшчэ цяжкая й замашная; лапата, што ў вольны час хадзіў Яўхім па людзях капаць калодзежы ды канавы, была вострая, добра магла прыстаць да чаго хочаш. Гэта-ж ня было нічога іншага пад рукамі, як выбіраліся з дому...

Ад сырасьці й нэрвовасьці зусім хрыпеў голас Саўкі:

— Гэта-ж бабы нашы й ня ведалі, на што мы доўбню ды лапату валаком з сабою...

— Не канечне, каб і ведалі: от уцяклі ў лес, ды і ўсё тут...

І абодва адчувалі пад сабой зямлю— вясновую, родную. Ліпне яна к людзям ды плугоў чакае; жджэ шырынёю палёў сваіх. Ужо дыхнула яна апошняю зімоваю парай, гукнула прызывам сваім. Ды не хватае сіл адгукнуцца ёй, укрыць яе сілаю сваёю. Бо разышліся сілы па лясох, па далёкіх абшарах. А яны, Саўка з Яўхімам, нядужыя ўжо, ды ім малую сілу сваю не даюць прылажыць у свой час да зямлі... Ды яшчэ ходзяць па ёй, па гэтай зямлі, другія людзі, гордую ўладу сваю раскінулі над ёю і людзьмі яе.

Дарога чуць-чуць бялела наперадзе шэраньню сьветлага, падсохшага ўзгорку, а можа гэта водблеск ад палявой вады падаў на яе. І на яе сьветласьці заварушылася чорная лапіна...

— Яўхім, назад паўзі...

— Даўбешка ёсьць?

А ён ехаў адзін. Тоўсты, як хмара, шырокі ўночы. Здаволена гойдаўся на сядле, а конь вараны сыта калыхаў задам, тупа ступаў нагамі, чмокаў падковамі па вільготнай зямлі...

— Ціха...

— Адпаўзі трохі назад...

Мусіць, прыглядзеўся ён на агні за рэчкай на гары роднага маёнтку, бо не глядзеў уніз. Толькі конь разьдзьмуў ноздры ды фыркнуў. І было ў ім здавальненьне нечым...

„Гэта-ж адзін якраз, біць зручней“, мільганула ў абодвых людзей думка і растала ў наступным, нахлынуўшым.

Сьціснулася ўсё нутро ў адзін цьвёрды жмут, як камень цяжкі й моцны. Стукнуў ён у грудзі, дашоў да горла і раптоўна вышаў ужо як-бы сьвістам бясконца ўдалага разгулу. Толькі цэла трэба было мацней к зямлі прыціснуць, а то яшчэ ўгледзіць, сьцебане па кані й згіне; ды лёгкае-ж яно нейкае стала, не ўяжджае ў зямлю, а тырчыць, здаецца, вышэй усяго поля...

— Гых-х!..

Аж страсянулася Саўкава істота ад ращучай натугі... Доўбня—сухі дуб—вельмі-ж прыстала да панскай патыліцы. Аглушыла, тупа трэснула. І ўсё на гэтым. У варанога перапалох прабег па скуры, ды ўзьняў ногі над зямлёй,—бо дзьве цёмныя фігуры матнуліся—адна ззаду, другая збоку,—драпануў вараны ў кусты направа. Абадраў аб каравы пень на баку скуру ды залапатаў капытамі ўніз, к рэчцы. Дыхнула адтуль вольнасьць паплавоў, запахла лагчынамі. Толькі цяжка было імчаць пад сабой чалавека, зачэпленага нагою за стрэмя. Закруціў галавою, зафыркаў вараны. Два разы падкінуў задам вышэй кустоў, скочыў з усіх чатырох цераз рэчку ў ваду ды куп'ё і адарваў чалавека. Толькі тупа плюхнуў шырокімі плячыма ў ваду... І драпануў вараны ў паплавы з пуду, аж зямля застагнала...

А хутка за ім, па яго-ж сьледу, першалезьлі цераз рэчку двое людзей. Азірнуліся на пакіненыя ззаду кусты ды пашлі паволі к лясом... Усё ўжо было зроблена, наперадзе лес ды далейшае падобнае, каб цераз гэта зноў вярнуцца.

Мусіць, здорава бегаў вараны, бо здалёк дабягаў да вушэй тупат капыт ды часты брэх вясковых сабак. На палявыя дарогі, мусіць, выбіўся вараны...

## VII

Тры дні плаваў па вадзе вецер, зганяў яе к берагом ды кудлачыў яе белаватую роўнасьць. А на чацьверты дзень паразганяў вецер хмары на небе і, як глянула сонца, спалохаўся таго, што сам нарабіў, ды ўцёк за сінія лясы. А вада асталася глядзець у неба ды сьмяяцца яму золатам сонечных іскраў.

Ужо зеляне лі пад сонцам чароты ды плюшнікі, ды асака цягнулася вяршкамі з-пад вады. Толькі была яна пасохшая, старая. Яна тры дні сьпявала пад ветрам сіплую песьню, цяпер маўчала над чыстатою вады. Сохла зямля, цягаліся па ёй худыя коні, адчуваючы ўжо за сьпіною плугі ды сурамец пугі...

Коні маўчалі, вецер уцёк, і асака не сьпявала, ды ўсё-ж над вадою шумна было.

Да вадзяных берагоў падыходзілі сабакі, нюхаючы паветра, выцягнуўшы мокрыя морды, ды яшчэ ўглядаліся ў сьляды, што пакінулі ноччу ваўкі. Ды яшчэ над вадою нізка кружыліся вароны, сядзелі на куп'ях пры самай вадзе.

За куп'ямі й кустамі лазы тырчэла з вады панскае чэрава. У сытай вясёласьці стаяла на ім варона. І чым мацнейшы быў сабачы брэх на беразе, тым мацней крычала яна, памінаючы пана...

Расьцьвітала зямля вясною.

# ЗЬМЕСТ